ГРОДНА
№18 (547),
11 кастрычніка 2020

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Дачка, Маці і Нявеста




*Мэта Шанштацкага руху – аднаўленне свету ў Хрысце праз Маці Божую Тройчы Цудоўную.*

на старонцы 2

## Інаўгурацыя ў семінарыі і каледжы



*Сёлета ў духоўных навучальных установах у Гродне распачалі навучанне 88 студэнтаў.*

на старонцы 4

## Экалагічная альтэрнатыва ўшанаванню памяці памерлых




*Наколькі шкодныя для навакольнага асяроддзя штучныя кветкі, і чаму еўрапейцы аддаюць перавагу біяурнам?*

на старонцы 5

# “ДАЮ ДЗЕЦЯМ НАДЗЕЮ НА ЛЕПШАЕ ЗАЎТРА”



**А. Дарыюш Гавада – місіянер з вялікім сэрцам, які ў 1994 годзе пачаў апекавацца над беднымі дзецьмі і падлеткамі ў Камеруне. У прытулку, якім ён кіруе, хлопцы і дзяўчаты маюць лепшыя ўмовы для жыцця і могуць хадзіць у школу замест таго, каб працаваць з маленства.**

**18 КАСТРЫЧНІКА СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ МІСІЙ**



*Дзякуючы місіянеру з Польшчы многія дзеці знайшлі другі дом*

на старонцы 3

СЛОВА РЭДАКТАРА

# *Дарагія Чытачы!*

*Свет патрабуе Евангелля! Асабліва сёння, у цяжкія часы. Патрабуе таксама людзей, якія будуць перадаваць яго. Людзей радасных, гатовых дзейнічаць і аўтэнтычных. Тых, хто будзе ўліваць у сэрцы іншых веру, надзею і любоў.*

*Абвяшчэнне Евангелля – місія кожнага. Усе мы пакліканы быць місіянерамі ў сваіх асяроддзях. Краі зямлі знаходзяцца ў нашых сэрцах, дамах і на месцах працы. Мусім быць тымі, хто расказвае пра Бога іншым і такім чынам становіцца місіянерам Пана Езуса.*

*Абвяшчаць Евангелле абавязваемся, прымаючы сакрамант канфірмацыі. Гэты абавязак вынікае таксама з самой прыналежнасці да Касцёла, якую атрымліваем падчас сакраманту хросту. Як толькі сустрэлі Езуса, ужо не можам не абвяшчаць Яго, калі сапраўды адчулі любоў Бога, які нас збаўляе, не патрабуем шмат часу на разважанні. Кожны хрысціянін з'яўляецца місіянерам у той ступені, у якой сустрэў Божую любоў у Хрысце Езусе.*

*Будзьма памочнікамі Пана! Давайце несці Яго пасланне па ўсіх кутках зямлі, прапанаваць Хрыста іншым і дапамагаць Яму ратаваць свет – гэта наша самая вялікая і важная задача. Будзьма заўсёды гатовыя несці любоў Езуса іншым!*



*кс. Юрый Марціновіч*

КАЛЯНДАР

**14 кастрычніка**

***Успамін св. Маргарыты Марыі Алакок, панны.***

*Св. Маргарыта вядома, у першую чаргу, дарам прыватных аб'яўленняў. У 1673–1689 гадах перажыла перад Найсвяцейшым Сакрамантам 80 бачанняў і аб'яўленняў, звязаных з таямніцай Сэрца Езуса, 30 з іх апісала. Збаўца перадаў манахіні пасланне з просьбай, каб у пятніцу пасля актавы Божага Цела адзначалася свята ў гонар Сэрца Пана Езуса з узнагароджваючай Камуніяй і малітвай перад Найсвяцейшым Сакрамантам. Пан Езус перадаў таксама праз яе 12 вялікіх абяцанняў для шанавальнікаў Яго Найсвяцейшага Сэрца.*

**15 кастрычніка**

***Успамін св. Тэрэзы ад Езуса, панны і доктара Касцёла.***

*Св. Тэрэза належыць да вялікіх рэфарматараў манаскага жыцця. На падставе ўласнага досведу напісала шэраг прац, якія змяшчаюць глыбокае вучэнне пра містычнае жыццё. Памерла 15 кастрычніка 1582 года. З'яўляецца заступніцай Іспаніі, кармэліцкага ордэна, хворых – асабліва тых, у каго баліць галава і сэрца, а таксама чыстцовых душ.*

**17 кастрычніка**

***Успамін св. Ігнацыя з Антыёхіі, біскупа і мучаніка.***

*Св. Ігнацый загінуў мучаніцкай смерцю на арэне ў Рыме, верагодна, у Калізеі. Мяркуецца, каля 107 года. Гісторыю яго гераічнай смерці апісалі, між іншым, многія святыя.*

**20 кастрычніка**

***Сусветны дзень місій.***

*Сусветны місійны дзень быў устаноўлены папам Піем XI у 1926 годзе. Ён прыпадае штогод у перадапошнюю нядзелю кастрычніка. Молімся ў гэты дзень за місіянераў, якія нясуць Езуса Хрыста ўсім тым, хто Яго не ведае, каб Бог падтрымліваў іх намаганні і працу ў служэнні Касцёлу.*

**22 кастрычніка**

***Успамін св. Яна Паўла II, папы.***

*Св. Ян Павел II з'яўляецца адным з найбольш хутка ўзнесеных да хвалы алтара вызнаўцаў сучаснасці. Датай яго літургічнага ўспаміну выбраны дзень 22 кастрычніка, які прыпадае на гадавіну ўрачыстай інаўгурацыі пантыфікату Папы-паляка.*

**24 кастрычніка**

***Успамін св. Антонія Марыі Кларэта, біскупа.***

*Прыняўшы святарскія пасвячэнні, на працягу многіх гадоў займаўся апостальскай дзейнасцю ў Каталоніі (Іспанія). Заснаваў супольнасць місіянераў пад тытулам Беззаганнага Сэрца Марыі – кларэтынаў. Памёр у Фонфруадзе ў Францыі 24 кастрычніка 1870 года.*

*18 кастрычніка – літургічны ўспамін Маці Божай Тройчы Цудоўнай*

# ДАЧКА, МАЦІ І НЯВЕСТА

*працяг са с. 1*

**Маці Божая Тройчы Цудоўная заваёўвае сэрцы ўсё большай колькасці людзей. Пілігрымаванне Яе абраза ахоплівае ўсё большыя абшары. Наведваючы дамы, Маці Божая чакае ад сваіх верных шанавальнікаў супрацоўніцтва. Марыя хоча ў нас і праз нас несці Езуса ў сучасны свет. Ёй патрэбны наша "так", нашы сэрцы і рукі.**

*Кс. Юрый Марціновіч*





*Група шанавальнікаў абраза ў мінскай парафіі Маці Божай Будслаўскай*

**З ГІСТОРЫІ**

Апостальства Маці Божай Пілігрымуючай распачало дзейнасць у Гродзенскай дыяцэзіі каля 20-ці гадоў таму. Яно выводзіцца з Шанштацкага руху, які зарадзіўся ў 1914 годзе ў Германіі, у горадзе Шанштат.

Усё пачалося з маленькай капліцы XIII стагоддзя, якая з'яўлялася часткай кляштара, пакінутага сёстрамі аўгусцінкамі. У яго будынках была створана гімназія, дзе айцы палатыны рыхтавалі маладых хлопцаў да святарства. Сярод настаўнікаў служыў а. Юзаф Кентэніч. Манах, назіраючы за паводзінамі сваіх вучняў, вымушаны быў сказаць: "Тут ужо нічога не сапсуеш". Але не апусціў рукі. Пачаў расказваць выхаванцам пра ідэалы і абудзіў у іх прагу да святасці.

**У Гродзенскай дыяцэзіі ў Мастах узнесена святыня пад тытулам Маці Божай Тройчы Цудоўнай.**

У старой капліцы а. Юзаф праводзіў духоўныя канферэнцыі. Натхнёны гісторыяй бл. Бартала Лонга, звярнуўся да Маці Божай з просьбай выбраць іх маленькую святыню месцам ласкі. Узамен разам са сваімі вучнямі паабяцаў папрацаваць над сабой. Манах хацеў, каб хлопцы фарміраваліся і выхоўваліся пад апекай Марыі.

Праз год у капліцу быў прынесены абраз Маці Божай Тройчы Цудоўнай. Выяву Марыі набыў на рынку адзін з настаўнікаў гімназіі. Яна трапіла ў Шанштат у Вялікую пятніцу, калі ў касцёлах чыталіся словы: "Вось Маці твая". У капліцу пачало прыбываць усё больш пілігрымаў.

**ТЫТУЛ ЦУДОЎНАЙ**

Шанштацкі рух развіваўся вельмі хутка. У 1920 годзе былі створаны Апостальскі саюз з Шанштата, затым Інстытут Сясцёр Марыі, Апостальская ліга і іншыя супольнасці. Усе іх яднае асаблівая любоў да Марыі, а таксама духоўнасць і педагогіка, якія з яе вынікаюць.

Члены гэтага руху ўшаноўваюць Марыю як Маці і Выхавальніцу. Яе тытул – Тройчы Цудоўная – адносіцца да Святой Тройцы і нагадвае аб тым, што Марыя з'яўляецца Дачкой Бога Айца, Маці Божага Сына і Нявестай Святога Духа.

Назва тытула ўзята з гісторыі марыянскай кангрэгацыі ў Інгольштаце. Мясцовы езуіт бл. Якуб Рэм хацеў даведацца, які з тытулаў найбольш падабаецца Марыі. Адказ ён атрымаў падчас містычнага ўздзеяння. Высветлілася, што Яе любімы зварот – "Маці Цудоўная".

**У ДЫЯЦЭЗІІ**

Невялікая каплічка Маці Божай Тройчы Цудоўнай, наведваючы сем'і нашай дыяцэзіі, нагадвае іх членам, што з'яўляюцца важнымі для Бога, што Ён глядзіць на іх з любоўю, як бацька глядзіць на сваё дзіця, што яны патрэбны Богу такія, якія ёсць. Марыя абуджае ў сем'ях усведамленне прысутнасці Пана. Ён, як добры і любячы Айцец, заўсёды побач і кожную секунду жыцця глядзіць на іх з вялікай любоўю. Яна вучыць сардэчнаму, дзіцячаму кантакту з Богам Айцом.

Прысутнасць Маці Божай Тройчы Цудоўнай у дамах і кватэрах дыяцэзіян дапамагае

**Шанштацкія сёстры служаць у Гродне і Мастах.**

аднавіць веру. Адзін з найпрыгажэйшых пладоў візітацыі – вяртанне многіх сем'яў да супольнай малітвы ў "хатнім Касцёле". І гэта тое, што сёння найбольш неабходна.



*Абраз Маці Божай Тройчы Цудоўнай*

Тыя, хто вітае Маці Божую пад сваім дахам, распавядаюць пра прысутнасць Марыі, якую яны адчуваюць у штодзённай барацьбе.

"Вазьміце абраз Маці Божай і дайце Ёй пачэснае месца ў вашым доме. Гэтае месца стане мініяцюрным санктуарыем, дзе гэты цудадзейны абраз дакажа сваю моц, ствараючы святую сям'ю і фарміруючы членаў яе сям'і" (а. Юзаф Кентэніч, Ліст з Санта-Марыя ад 15 красавіка 1948 г.).

# “ДАЮ ДЗЕЦЯМ НАДЗЕЮ НА ЛЕПШАЕ ЗАЎТРА”

працяг са с. 1

**У сённяшнім нумары “Слова Жыцця” а. Дарыюш Гавада знаёміць нас з тым, як выглядае служэнне місіянера, а таксама з рэаліямі жыцця на Чорным кантыненце.**

*Кінга Красіцкая*

**– А. Дарыюш, як пачалася Ваша місіянерская прыгода?**

– Мая місіянерская прыгода пачалася ў 1975–1980 гадах, калі вучыўся ў сярэдняй школе, у інтэрнаце, за 150 км ад дома. Не ведаю, як і адкуль мне ў рукі трапіла выява заплаканага маленькага чарнаскурага дзіцяці з надпісам-просьбай аб дапамозе. Сказаў тады сабе ў сэрцы, што буду дапамагаць такім дзецям. Але хутка пра гэта забыўся.

Выпускныя экзамены, вяртанне ў родны горад, 5 гадоў вучобы, год працы ў навучальнай установе… Аднак недзе на 3 курсе навучання (свецкага) я выпадкова апынуўся ў акадэмічным душпастырстве, у харызматычнай групе. Мне спадабаліся гэтыя ўзнятыя рукі, гэтыя блажэнныя спевы, якія кранаюць сэрцы і розумы. А пасля я трапіў на акадэмічныя рэкалекцыі ў Канажэва каля Познані.

Гэта быў люты 1984 года. Памятаю, стаяў мароз, і снегу нападала амаль па калена. Падчас начнога чування мы адаравалі Найсвяцейшы Сакрамант у ацяпляным касцёле, а штосьці ўнутры стала мне падказваць: “Вы тут упіваецеся Святым Духам, хораша спяваеце, рукі ўверсе, сэрцы цешацца, славячы Пана, а дзесьці ў свеце мільёнам дзяцей няма чаго есці, і гэтага вашага Бога яны нават не ведаюць”. Я ўзгадаў той здымак з інтэрнацкіх часоў. Устаў, выйшаў з касцёла на мароз і пачаў маліцца на ружанцы, абыходзячы святыню, каб праверыць, ці можна ахаладзіць гэтае ўнутранае ўзрушэнне. “На жаль”, не! Праз некаторы час следам за мной на вуліцу выйшаў светлай памяці а. Томаш, і мы загаварылі. Я ўсё расказаў і пачуў у адказ: “Скончы вучобу, і паглядзім, ці ўсё яшчэ будзеш мець жаданне адправіцца на край свету”.

На 4–5 курсах я заставаўся ў харызматычнай групе, грэючы сэрца. Хадзіў у паломніцтвы, штодзённа ўдзельнічаў у св. Імшы для студэнтаў а 7-ай раніцы. Але цвёрда пастанавіў, што адразу пасля заканчэння навучання пачну не толькі “махаць рукамі”, але і дзейнічаць.

Я паступіў у семінарыю ў 1986 годзе. З самага пачатку сказаў настаўнікам, што хачу на місіі ў Афрыку. У 1993 годзе атрымаў святарскія пасвячэнні і праз 3 тыдні быў ужо ў Камеруне. І так да сёння. У чэрвені мінула ўжо 27 гадоў.

**– У чым заключаецца Ваша місіянерскае служэнне?**

– Першыя 16 гадоў я выконваў паслугу пробашча парафіі на ўсходзе Камеруна. Гэта была амаль тыповая парафіяльная праца на тэрыторыі, якая ахоплівае 7 раёнаў горада Бертуа і 25 вёсак уздоўж адной дарогі ў трапічным лесе. Да канца парафіі мне было 220 км. Магчыма, розніца з душпастырскім служэннем у Польшчы заключаецца ў тым, што Касцёл у Камеруне тады меў усяго 100 гадоў, а ў парафіі – толькі 40.

У адной з вёсак я быў першым белым чалавекам з часоў стварэння свету. Каб дабрацца туды, нам з хлопцамі давялося на працягу 3-ох дзён прачышчаць сцежку ў лесе. А лясы тут не такія, як у Еўропе.

Катэхезы з нуля амаль паўсюдна, хросты сотнямі, да св. Камуніі мала хто мог прыступаць (у большасці выпадкаў тут альбо канкубінат, альбо паўсюдная палігамія) – толькі дзеці пасля Першай Камуніі і пажылыя асобы. А старэйшых таксама не шмат, бо ў Камеруне людзі пасля 60-ці гадоў складаюць толькі 3% насельніцтва. Але мясцовы люд горнецца да Касцёла. Магчыма, спачатку крыху па прынцыпе забавы, калі святар прыязджае раз на 2 месяцы: нешта адбываецца, хадзем паглянем!

Праца ў такіх умовах заключаецца ў арганізацыі структур у вёсках: выбар катэхіста – таго, хто кіруе мясцовай супольнасцю і адпраўляе літургію слова кожную нядзелю, нейкага невялікага парафіяльнага савета, стварэнне хору, біблійнай ці марыйнай групы. У гэтым горадзе ўжо крыху лепш, бо я прыйшоў пасля першага пробашча парафіі, таму ўсё было ўжо наладжана: штодзённая св. Імша і Ружанец у капліцы, катэхізацыя дзяцей, розныя парафіяльныя групы. Акрамя таго, тут яшчэ трэба быць аднachасова і ксяндзом, і ўрачом, і механікам, і сталяром, і маляром, і зваршчыкам, і настаўнікам, і земляробам, і муляром і г. д. Можна нават наадварот сказаць, што ксяндзом з'яўляюся толькі ў вольны час.

У 2000 годзе, калі застаўся ўжо амаль адзін на плябаніі, я адчыніў дзверы для дзяцей з парафіі, у якіх бацькі альбо памерлі ад СНІДу, альбо неяк інакш пабіты лёсам, каб забяспечыць ім дах над галавой, харчаванне і навучанне. З дапамогай людзей добрай волі, у асноўным з 9-ці парафій у Познані, якія нас падтрымлівалі, адправілі тады ў школу 844 дзіцяці.

Пазней, у 2007 годзе, удалося пабудаваць першы дзіцячы дом у 300 метрах ад плябаніі, дзе ўжо жыве каля 25-ці дзяцей. У 2009 годзе я пераехаў у Яўндэ, сталіцу краіны, і тут у 2011 годзе пабудаваў другі прытулак, дзе зараз жыву разам з 35-цю дзецьмі і апекунамі. Такім чынам, цяпер уся мая праца абмежавана да нашага прытулку. І надалей “ксяндзом з'яўляюся толькі ў вольны час”: будую, рамантую, шукаю грошы на прадукты харчавання, адзенне, лячэнне.

**– Якое аблічча мае Касцёл там? Што ў ім выклікае здзіўленне, а што – надзею?**

– Касцёл у краіне крыху адрозніваецца ад нашага еўрапейскага. Перш за ўсё, ён малады, мае ледзь 130 гадоў, а ў некаторых вёсках нават няма супольнасці. Але тут нікому не трэба даказваць існаванне Бога. Кожны ў Яго верыць: і хрысціянін, і мусульманін, і сектант. А сект тут сотні. Бог ёсць, і ніхто нават не сумняваецца. У гэтым ёсць надзея.

Поўдзень краіны больш хрысціянскі, а поўнач больш мусульманская. Напрыклад, тут у горадзе амаль на кожным таксі ёсць надпісы, якія праслаўляюць Бога, Маці Божую, Алаха альбо Мухамеда. У кожнай установе, ля касы ў краме – усюды павінна ляжаць меншае альбо большае выданне Бібліі. Часта падзёртыя, як у сабакі з пашчы выцягнутыя – значыць, часта чытаемыя. Бог усюды! Спевакі часцей спяваюць пра Бога, чым на іншыя тэмы. Таксама маецца база для душпастырскай працы. Тут ёсць надзея.

Аднак яе няма, калі гаворыць пра маральнасць. Касцёл сапраўды поўны і ў нядзелю, і ў звычайныя дні, але да Камуніі мала хто можа прыступаць. Канкубінат, амаль неіснуючыя сакраментальныя сужэнствы і ўсеагульная палігамія. Звычай аднесна шлюбаў настолькі выкараненыя і складаныя, што мусіць мінуць яшчэ некалькі ці нават дзесяткі пакаленняў, перш чым тут нешта зменіцца, і мужчына з жанчынай спачатку пойдуць да алтара, а потым пачнуць жыць разам. Але людзі ёсць у касцёле. Яны вельмі актыўныя, удзельнічаюць у розных парафіяльных групах – у гэтым, магчыма, і ёсць іскра надзеі.



А. Дарыюш Гавада разам са сваімі выхаванцамі

**– Якія цяжкасці спадарожнічаюць працы місіянера? Ці сустракаліся Вы з пагрозай для жыцця?**

– Цяжкасці? Калі ёсць чым заняцца, на цяжкасці не звяртаеш увагі. А тут заўсёды ёсць чым заняцца. Напэўна, самай вялікай складанасцю з'яўляецца ўсведамленне таго, што ты не адсюль, і цябе ўвесь час будзе нешта раздражняць, бо зроблена па-еўрапейску, а тут трэба па-афрыканску. “Навошта адкладваць на заўтра тое, што можна зрабіць паслязаўтра”, – кажуць. І гэта, бадай, самая вялікая праблема для многіх місіянераў. Ім хацелася б адразу навярнуць Афрыку, хацелася б бачыць вынікі сваёй працы, і вось аблом – не ў Афрыцы! Тут трэба, як гавораць старыя місіянеры маладым, якія едуць на місіі, узяць з сабой 3 чамаданы: у першым цярпенне, у другім цярпенне і ў трэцім цярпенне. Бо інакш звар'яцееш і хутка вернешся ў Еўропу, заявіўшы, што там нічога не ўдасца зрабіць.

На пачатку свайго побыту ў Камеруне мне давялося жыць з галандскім біскупам (ён знаходзіўся тут 60 гадоў). Я быў эканомам біскупскага дома і адначасова пачынаў паслугу пробашча. Прынамсі некалькі разоў біскуп высылаў мяне: “Дарэк, едзь у Яўндэ па новага місіянера”. Я прывозіў маладога гарачага святара, які хацеў змяніць Афрыку, бо быў пасля Цэнтра фармацыі місіянераў у Варшаве, таму думаў, што ведае, як.

У выніку, большасць з тых, каго я прывозіў, праз некалькі гадоў адвозіў у той жа аэрапорт, бо ім было ўжо досыць негрыцянскага падыходу да жыцця. Яны хацелі са складзенымі рукамі перавярнуць Афрыку дагары нагамі, а тут так не атрымаецца. Цягалі тачкі з пяском і цэментам, а негры глядзелі на “белага дурня” і смяяліся: куды ён так спяшаецца? Вось такога тыпу, хутчэй, гэтыя цяжкасці, больш псіхалагічныя, бо астатнія, такія як клімат, хваробы, харчаванне, умовы жыцця – гэта нішто.

Што тычыцца пагрозы жыццю, толькі аднойчы ў мяне быў ствол у горле, на карку і нож ля шыі. І збівалі мяне паўночы, і ў апошні момант перадумалі застрэльваць. А так, апрача гэтага, усё спакойна.

**– Пасля такога доўгага знаходжання на місіях прыходзіць час падвесці вынікі. Чым Вы больш за ўсё задаволены? Можа, штосьці яшчэ хацелі б рэалізаваць?**

– Чым я задаволены больш за ўсё? Што яшчэ не звар'яцеў, будучы з 2003 года адзіным белым чалавекам сярод чарнаскурых, што навучыўся быць цярплівым з настолькі рознымі людзьмі і працягваць змяняць свет да лепшага, не чакаючы відовішчных змен. Я проста раблю сваю працу на сваім кавалку зямлі.

Задаволены, што адправіў у школу за гэтыя гады, з дапамогай, вядома, дабрачынцаў, пару тысяч дзяцей. Маю 9 выхаванцаў у Польшчы: хтосьці там на вучобе, а хтосьці ўжо стварыў сям'ю. Задаволены, што на працягу 20-ці гадоў пры дапамозе людзей добрай волі даю дзецям і моладзі прытулак і надзею на лепшае заўтра. І ўсведамляю, што без нас яны былі б на гэтым свеце нікім.

Што хацеў бы рэалізаваць? Ужо нічога! Вытрываць да канца ў тым, што раблю! Ужо нічога разумнейшага не прыдумаю. Цяпер буду актыўна дзейнічаць. Хтосьці сказаў, што той, хто выстаіць да канца, будзе выратаваны.

**– Некаторыя сцвярджаюць, што місіянерамі становяцца да канца жыцця. Што Вы думаеце на гэты конт?**

– Кожны з хросту ці з'яўляецца місіянерам, ці не з'яўляецца хрысціянінам увогуле. Нельга быць хрысціянінам, не будучы місіянерам. Не ўсім пашанцавала выехаць на край свету, але кожны можа, не выходзячы са свайго пакоя ці кляштара, быць у мільён разоў большым місіянерам, чым я. Дастаткова ўспомніць нядаўна ўзгадваемую ў літургіі св. Тэрэзу з Лізьё, якая з'яўляецца апякункай місій, а не высунула носа з манастыра. Дастаткова маліцца за місіі так, як яна, а хто можа і мае чым – дзяліцца з тымі, хто знаходзіцца далёка, з такімі шчасліўчыкамі, як я.

## АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

### Прэмію Ратцынгера атрымаюць тэолагі з Францыі і Аўстраліі

Французскі філосаф і тэолаг Жан-Люк Марыён і аўстралійская даследчыца Трэйсі Роўланд сталі сёлетнімі лаўрэатамі Прэміі Ратцынгера.

Даследаванні прафесара Жан-Люк Марыёна тычацца гісторыі філасофіі і фенаменалогіі. Галоўныя навуковыя працы прафесара Трэйсі Роўланд прысвечаны тэалогіі Бенедыкта XVI.

Прэмія Ратцынгера ўручаецца сёлета ўжо ў 10-ты раз. Узнагарода прысуджаецца за папулярызацыю тэалогіі ў сучасным свеце. Яе яшчэ называюць “Нобелеўскай прэміяй у галіне тэалогіі”.

### Прэфект Кангрэгацыі па справах кананізацыі падаў у адстаўку

Папа Францішак задаволіў просьбу аб адстаўцы з пасады прэфекта Кангрэгацыі па справах кананізацыі, пададзеную кард. Джавані Анджэла Бэчу.

У заяве Залы Друку Святога Пасада паведамляецца, што іерарх адмовіўся таксама ад паўнамоцтваў, звязаных з кардынальствам. Ён застаецца кардыналам, але губляе ўсе прэрагатывы, звязаныя з гэтай годнасцю, у тым ліку права галасавання на канклаве.

### Каталіцка-пратэстанцкая інтэркамунія: быць ці не быць

Старшыня Папскай рады па спрыянні хрысціянскаму адзінству кард. Курт Кох пацвердзіў “не” Святога Пасада для эўхарыстычнай супольнасці католікаў і пратэстантаў у Германіі.

Іерарх патлумачыў, што патрабуюць далейшага абмеркавання і паглыблення пытанні дакладнага разумення Эўхарыстыі і Вячэры Пана, узаемасувязі Эўхарыстыі і Касцёла, служэння, пасвячэння і ўзаемасувязі хросту і Эўхарыстыі. Мяркуецца, што пратэстанцкая Вячэра Пана і каталіцкая Эўхарыстыя – па сутнасці, дзве розныя формы адной падзеі. Такім чынам, гэта выключае ўзаемны ўдзел вернікаў у Эўхарыстыі ці Вячэры Пана.

### Апублікаваны дакумент у абарону жыцця невылечна хворых

Кангрэгацыя Веравучэння прадставіла ліст адносна лячэння асоб у крытычнай і тэрмінальнай стадыі жыцця – “Samaritanus bonus” (“Добры Самаранін”).

У дакуменце гучыць асуджэнне любой формы эўтаназіі і дапамогі ў суіцыдальнай смерці. Нават калі “аздараўленне немагчымае або малаверагоднае”, “неад'емным абавязкам” застаецца “медыцынскае, санітарна-эпідэміялагічнае, псіхалагічнае і духоўнае суправаджэнне” хворых людзей – сцвярджаецца ў пасланні. Ліст утрымлівае заклік да мясцовых Касцёлаў заняць адназначную пазіцыю па ўзнятым пытанні.

### Малітоўныя інтэнцыі на кастрычнік

#### паўсюдная

Молімся, каб моцай хросту свецкія вернікі, асабліва жанчыны, актыўней дзейнічалі ва ўстановах, адказных за Касцёл.

#### дыяцэзіяльная

Молімся аб новых святарскіх, манаскіх і місійных пакліканнях, а таксама за нашу Гродзенскую вышэйшую духоўную семінарыю.

# ПРА ТОЕ, ЯК СА ЗЛОГА МОЖНА ЗРАБІЦЬ ДОБРАЕ

**Напэўна, "рай на зямлі" быў бы дасягнуты, калі б жыццё кожнага з нас прыносіла такі ж вялікі плён, як зямная вандроўка бл. Ганарата Казьмінскага.**

*Ангеліна Марцішэўская*

Манах нарадзіўся ў Бялай-Падлясцы (Польшча) у складаныя для Рэчы Паспалітай часы – перыяд яе падзелу. Выхоўваўся ў глыбока рэлігійнай сям'і, аднак, нягледзячы на гэта, страціў веру ў падлеткавым узросце. Ганарат узбунтаваўся супраць Бога:

**Каталіцкі Касцёл узгадвае бл. Ганарата Казьмінскага 13 кастрычніка.**

блюзніў, адварочваў іншых ад Госпада, насміхаўся над вернікамі і духавенствам.

У студэнцтве юнака западозрылі ў змове супраць царскай улады і кінулі ў вязніцу. Зняволены, ён захварэў на тыф, ад чаго моцна пакутаваў. У гэты самы час перажываў моцнае ўнутранае навяртанне. Апынуўшыся на свабодзе, уступіў у Ордэн Братоў Меншых (капуцынаў).

Неўзабаве царскія ўлады пачалі ліквідаваць кляштары. Усе сферы касцёльнага жыцця паступова ахапіў паліцэйскі тэрор. А. Ганарат настойліва шукаў спосаб дапамагчы Касцёлу ў час праследу. Узор для новай формы манаскага жыцця знайшоў у таямніцы ўкрыцця Бога перад светам, ва ўтоеным жыцці Езуса і Марыі ў Назарэце.

Пэнітэнтаў, якія адкрывалі ў сабе пакліканне да манаскага жыцця і жадалі выехаць за мяжу па прычыне закрытых навіцыятаў, а. Ганарат заахвочваў застацца на радзіме. "Паколькі гэта плод мясцовы, яны павінны застацца тут, няправільна пазбаўляць гэтую зямлю спелага, найпрыгажэйшага плода, які яна прынесла", – разважаў айцец. Ён пачаў фарміраваць супольнасці, якія абапіраліся на пэўныя сацыяльныя або прафесійныя групы. З правіл пакінуў асноўныя патрабаванні манаскага жыцця: захаванне шлюбаў чыстасці, убогасці і паслухмянасці. Разам з тым, не было хабіту і жыцця ў доме манаскай супольнасці. Існавала свабода працы і заробкаў, а таксама свабода ў распараджэнні грашыма.

Такім чынам а. Ганарат паклаў пачатак новай форме скрытага манаскага жыцця – без знешніх адзнак. Ён заснаваў 26 рэлігійных супольнасцей. Цяпер з іх існуе 16: 3 хабітовыя і 13 бесхабітовых. Толькі напрыканцы XIX стагоддзя ў "ганарацкіх супольнасцях" налічвалася каля 10-ці тысяч братоў і сясцёр. Іх дзейнасць з часам прынесла плён далёка за межамі краіны на 4-ох кантынентах. Супольнасці а. Ганарата нясуць дабрачыннае і апостальскае служэнне сярод школьнай моладзі і рамеснікаў, на прадпрыемствах і сярод вяскоўцаў, у прытулках для старых асоб і інвалідаў.




## С. ХЭЛЕНА ПЛЯХІМОВІЧ З КАНГРЭГАЦЫІ ДАЧОК БЕЗЗАГАННАЙ МАРЫІ ПРА БЕСХАБІТОВАЕ СЛУЖЭННЕ

Узнікненне бесхабітовых супольнасцей абумоўлена абставінамі часу, калі царскія ўлады ціснулі на Касцёл і канскэравалі асобам неабходна было ўкрывацца. Аднак патрэба служэння бесхабітовых сясцёр, на маю думку, застанецца актуальнай да таго часу, пакуль людзі будуць адчуваць неабходнасць у духоўнай апецы, малітоўнай падтрымцы і звычайным хрысціянскім прыкладзе чалавека, што знаходзіцца побач. Чалавека, які, прынамсі, з выгляду такі ж, як яны.

Я расла ў часы савецкай атэізацыі, і мой кантакт з Богам канцэнтраваўся на нядзельнай св. Імшы, на якую прыходзілі ўсёй сям'ёй, штодзённай вячэрняй малітве з мамай (бацька заўсёды маліўся адзін) і захаванні хрысціянскіх традыцый. Калі я вучылася ў 7-ым класе, у парафію прыбыла служыць с. Агнешка з Кангрэгацыі Дачок Беззаганнай Марыі. Яна рыхтавала дзяцей да Першай св. Камуніі, а нас, дзяўчат, часта запрашала да сябе дадому на малітву і адпачынак. Як пасля даведаліся, у гэтым доме жылі іншыя манаскія сёстры, якія не насілі хабіт.

Калі я назірала за с. Агнешкай, мне вельмі падабалася, як яна паводзіць сябе з дзецьмі, мяне цягнула на малітоўныя сустрэчы, аднак пра манаскае жыццё ў той час я нават мімаходам не думала. З дзяцінства марыла пра вялікую сям'ю, каханага мужа і ўласны дом. Аднак Бог накіраваў у іншае рэчышча.

Калі напярэдадні заканчэння школы с. Агнешка прапанавала нам паехаць на экскурсію ў Польшчу, я нават выпускны прапусціла, каб мець магчымасць адправіцца ў вандроўку па замежнай краіне. Першым месцам для прыпынку на начлег быў дом супольнасці нашай сясцёр. І там у мяне ўпершыню з'явілася пачуццё, нібыта знаходжуся ў сваім канчатковым пункце зямнога шляху: ва ўласным доме, сярод сваёй сям'і.

Вярнуўшыся дадому, я падзялілася ўражаннямі з мамай. Нягледзячы на слёзы, яна мяне падтрымала. Напярэдадні была складаная размова з татам… З цягам часу жаданне прысвяціць сябе Богу толькі ўзмацнялася, а Езус адначасова перамяняў сэрца майго бацькі. Нарэшце ён пагадзіўся з рашэннем дачкі стаць манахіняй, пры ўмове, што гэта зробіць мяне шчаслівай. Такім чынам, я паступіла ў аспірат нашай кангрэгацыі ў Польшчы.

Кангрэгацыя Дачок Беззаганнай Марыі была заснавана дзеля праслаўлення Беззаганнага Зачацця Панны Марыі, таму кожная сястра з нашай супольнасці з першых дзён манаскага жыцця становіцца ўласнасцю Марыі. Мы прыносім сябе ў ахвяру Маці Божай як зброю для выратавання бліжніх малітвай і працай у патрэбах душы і цела, а таксама ўласным прыкладам. Пакліканы быць анёламі-апекунамі для жыхароў мястэчак.

Мы, бесхабітовыя сёстры, амаль нічым не адрозніваемся ад іншых манахінь, акрамя таго, што не носім бачных адзнак, якія сведчылі б пра наш статус у грамадстве (наконт знешняга выгляду ў статуце Кангрэгацыі запісана, што адзенне павінна адрозніваца эстэтыкай і сціпласцю). Маем 4 характэрныя рысы супольнасці:

1. Дух Марыі – па прыкладзе Багародзіцы жывём у свеце, але сэрцам знаходзімся побач з Богам;
2. Францішканізм – па прыкладзе св. Францішка з Асізі бачым Бога ў кожным стварэнні;
3. Узнагароджванне – нашым жыццём узнагароджваем Госпаду за кожны грэх, які раніў Яго чалавек;
4. Укрыццё – сведчым аб святасці жыцця чыстым сумленнем і сэрцам цалкам аддадзеным Богу.

Сёстры з нашай супольнасці вядуць апостальскую дзейнасць у Лідзе, а таксама ў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі ў Свіры. У асноўным, нашым пакліканнем з'яўляецца праца ў розных установах – там, дзе афіцыйна Касцёл не мае магчымасці прысутнічаць. Таму сёстры заўсёды маюць вышэйшую адукацыю, якая дазваляе быць задзейнічанымі сярод розных свецкіх прафесій. Аднак, улічваючы, што на дадзены момант Касцёл у нашай краіне мае патрэбу ў большай катэхізацыі, мы служым дзецям, моладзі і старэйшым асобам пры парафіях.

Я моцна ўдзячная Богу і Марыі, якія, нібы любячыя бацькі, на працягу амаль 30-ці гадоў вядуць мяне па дарозе да святасці і дазваляюць несці святло Евангелля паўсюль, куды можа дайсці звычайны чалавек.



С. Хэлена Пляхімовіч (другая злева). Кангрэгацыя Дачок Беззаганнай Марыі – адна з супольнасцей, заснаваных бл. а. Ганаратам Казьмінскім

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ІНДЫЯ.** У штаце Карнатака каля парафіі св. Юзафа паліцыя разабрала Крыжовы шлях, якім каталікі карысталіся больш за 50 гадоў. Быў дэмантаваны 32-метровы крыж і 14 саміметровых. Паводле заявы ўлад, крыжы пастаўлены на ўрадавай зямлі без неабходных дазволаў. Пробашч парафіі а. Антоній Брытта Раджан паведамляе, што "не бачыў дакументаў з рашэннем суда, якія пацвярджаюць гэтае рашэнне". Парафія збіраецца прыняць законныя меры, каб аднавіць Крыжовы шлях.

**ЭФІОПІЯ.** У манастыры Абуні Гарыма захоўваецца найстаражытнейшы ілюстраваны пераклад Бібліі. Раней лічылася, што рукапіс датуецца XI стагоддзем, але нядаўнія даследаванні С-14 перанеслі дату рукапісу на 6 стагоддзяў назад. Такім чынам, гэта робіць яго самым старажытным у гісторыі. Рукапіс складаецца з 2-ух ілюстраваных кодэксаў, якія ўключаюць 4 Евангеллі, напісаныя на класічнай эфіопскай мове.

**БРАЗІЛІЯ.** Епіскапат пратэстуе супраць легалізацыі марыхуаны ў краіне. У лісце да спікера Палаты дэпутатаў біскупы prakaментавалі прапановы некаторых палітыкаў, якія хочуць атрымаць дазвол на неабмежаванае ўжыванне марыхуаны па ўсёй Бразіліі. Іерархі падкрэсліваюць, што наркаманія з'яўляецца адной з прычын хвароб, фізічнай і псіхічнай інваліднасці і сацыяльнай ізаляцыі. Яны заклікаюць узмацніць ціск на палітыкаў з мэтай распрацоўкі прафілактычных мер у дадзеным пытанні.

**ІТАЛІЯ.** З катэдральнай базілікі ў горадзе Спалета скрадзены рэлгіквіі крыві св. Яна Паўла II. Пра справу неадкладна паведамлена ў паліцыю. Аналізуюцца запісы камер назірання. Арцыбіскуп Спалета-Норчы Рэната Бакарда скіраваў спецыяльны зварот да злодзея. Іерарх назваў крадзеж святатацтвам і папрасіў як мага хутчэй вярнуць рэліквіі. "Такі ўчынак сведчыць аб непавазе да пачуццяў людзей, якія прыйшлі ў святыню, каб ушанаваць святога", – зазначыў арцыбіскуп. Рэліквіі планавалася перанесці ў касцёл св. Яна Паўла II, які будзе асвечаны 22 кастрычніка.

**ЗША.** Прэзідэнт Дональд Трамп выдаў распараджэнне, якое гарантуе медыцынскую дапамогу немаўлятам, што выжылі падчас аборту. Хоць гэты загад не абмяжоўвае права на аборты, ён гарантуе дзецям, якія нарадзіліся жывымі, нягледзячы на спробы іх пазбавіцца, доступ да прафесійнай медыцынскай дапамогі, якой яны раней не мелі. Да гэтага часу дадзенае пытанне шмат разоў уздымалася ў Кангрэсе ЗША, але законапраект не станавіўся законам, паколькі затрымліваўся ў Палаце прадстаўнікоў, дзе большасць складаюць члены Дэмакратычнай партыі.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ІНАЎГУРАЦЫЯ Ў СЕМІНАРЫІ І КАЛЕДЖЫ

працяг са с. 1



Біскупы, мадэратары і алюмны першага курса духоўнай семінарыі

*Grodnensis.by*

У першыя дні кастрычніка ў Вышэйшай духоўнай семінарыі і ў Тэалагічным каледжы св. Казіміра ў Гродне адбылося ўрачыстае распачацце новага 2020/2021 навучальнага года.

Кіраўнікі ўстаноў абвясцілі аб адкрыцці чарговага акадэмічнага года пасля ўрачыстага спеву навучэнцамі гімну "Gaudeamus igitur". Такім чынам выкладчыкі і студэнты ў імя Бога распачалі чарговы год вучобы.

У дзень інаўгурацыі ў духоўнай семінарыі былі ўручаны залікова кніжкі 8-мі алюмнам першага курса: 6 з іх паходзяць з Гродзенскай дыяцэзіі, 1 – з Віцебскай і 1 – з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Гэты навучальны год яны праведуць у Мінску.

Тэалагічны каледж адкрыў навучальны год урачыстай св. Імшой, цэлебраванай у рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі) пад кіраўніцтвам біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча. На першы курс было прынята 11 чалавек, якія захацелі пашырыць кругагляд, бліжэй пазнаёміцца з вучэннем Касцёла, а ў будучыні, магчыма, служыць катэхетамі ў Гродзенскай дыяцэзіі.

У адпаведнасці з рашэннем біскупа Гродзенскага, з новага навучальнага года дырэктарам каледжа прызначаны кс. Юрый Марціновіч.

**У новым акадэмічным годзе навучанне ў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі распачалі 34 алюмны, у Тэалагічным каледжы св. Казіміра – 54 студэнты.**

ЭКАЛАГІЧНАЯ ЦНОТА



Алена Майсюк

# ЭКАЛАГІЧНАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА ЎШАНАВАННЮ ПАМЯЦІ ПАМЕРЛЫХ


mowimyjak.se.pl

працяг са с. 1

**Напярэдадні ўрачыстасці Усіх Святых падумаем над нашым стаўленнем да навакольнага асяроддзя, калі клапоцімся пра магілы блізкіх. Між іншым, разгледзім экалагічныя варыянты пахавання.**

Традыцыйна хрысціяне адпраўляюцца на могілкі, каб ушанаваць памяць памерлых родных, прыбрацца на іх магілах і запаліць свечкі. Хуткі тэмп жыцця прымушае чалавека знаходзіць лёгкія шляхі: на хаду набыць новую лампадку, некалькі яркіх штучных кветак. Змахнуўшы пыл з помніка, ён запальвае куплены зніч, ставіць пластыкавыя кветкі, а старыя выкідвае ў перапоўнены кантэйнер. Аднак такія дзеянні – гэта толькі пагарджанне тымі, хто адышоў у іншы свет, і шкода жывым людзям.

Насамрэч, адна лампадка праслужыць доўга: у яе можна ўстаўляць новыя свечкі. А штучныя кветкі і вянкі – сур'ёзная пагроза навакольнаму асяроддзю. Яны не падлягаюць абавязковай сертыфікацыі, таму прывозяцца з Кітая ў безлічнай колькасці. Работнікі, якія займаюцца адпраўненнем спрасаваных кветак, могуць знаходзіцца ў памяшканні з такой прадукцыяй толькі ў рэспіратары, інакш праз 30 хвілін яны траціць прытомнасць ад атручвання высокатаксічнымі рэчывамі. Трапляючы на звалку, кветкі і вянкі не перарабляюцца, захоўваюцца з агульным смеццем і працягваюць атручваць паветра, зямлю і ваду на працягу паўтысячы гадоў. Небяспечна таксама іх спальванне, таму што вызваляецца вялікая колькасць шкодных рэчываў.

***На могілках можна пасадзіць шматгадовыя расліны. Падыдуць хрызантэмы, лілії, эхінацэя, нарцыс, ірыс, барвінак і інш. Старайцеся садзіць нізкарослыя кветкі, якія ўтвараюць жывы дыван, або цясней размяшчайце пучковыя кветкі, каб не дапусціць разрастання пустазелля. Кусты і вечназялёныя хвойныя будуць захоўваць зямлю ад перагрэву. На пахаванне таксама пажадана прыходзіць з жывымі кветкамі, хвойнымі вянкамі як сімвалам вечнага жыцця душы.***

Сучасны экалагічнай катастрофай з'яўляецца і само месца пахавання. Пад могілкі высякаюцца векавыя дубровы і іншыя зялёныя пасадкі. Для вырабу трун і крыжоў таксама ў вялікай колькасці знішчаюцца дрэвы. Вялізныя тэрыторыі з граніту і мармуру агалены. Знаходзячыся пад пякучым сонцам, яны ствараюць неспрыяльны мікраклімат. Разагрэтае паветра разносіць пыл, узбагачаны хімічнымі рэчывамі, атручвае заселеныя тэрыторыі.

***Для захавання навакольнага асяроддзя прапануецца пакідаць толькі прах, спальваючы памерлага ў крэматоры, і змяшчаць урны з парэшткамі ў калумбарыі. У еўрапейскай практыцы выкарыстоўваюцца біяурны, якімі высаджваюцца паркі (у біяраскладальную скрыню змяшчаецца насенне, з якога вырастае дрэва).***

Па традыцыі хрысціяне ставяць на магіле крыж, які сімвалізуе збаўленне чалавека. Ён з'яўляецца галоўным упрыгожаннем гэтага месца. Варта памятаць, што ў першую чаргу памерлым патрэбна наша малітва і добрыя справы ў іх памяць.

> У першую нядзелю кастрычніка адзначаецца Дзень "Замяні звычайную лямпачку на энергазберагальную". Гэта дазваляе паменшыць спажыванне энергіі. Менш рэсурсаў будзе задзейнічана ў вытворчасці энергіі. Святлодыёдныя лямпачкі пераважней люмінесцэнтных, таму што яны не ўтрымліваюць ртуць, бяспечныя ў штодзённым жыцці і не патрабуюць утылізацыі ў асобныя кантэйнеры (устаноўлены ў месцах продажу, буйных супермаркетах). Датчыкі руху таксама эканомяць энергію ў месцах праходжання.

# ПРАБЛЕМА СЭНСУ ЖЫЦЦЯ І СЭНСУ СМЕРЦІ Ў ДУХОЎНЫМ ВОПЫЦЕ ЧАЛАВЕКА


yamskaya70.kiev.ua

**Пытанне аб сэнсе жыцця ўздымалася чалавекам ва ўсе часы: "Хто я?", "Навошта жыву?", "У чым сэнс майго існавання?". Калі мы маем сэнс жыцця, атрымліваем мэту, да якой можам імкнуцца. Ён з'яўляецца меркай таго, што важна, а што не.**

*Алена Запаснік*

Сэнс жыцця можна параўнаць з компасам, які паказвае кірунак жыцця. Без яго, як вядома, мы абавязкова збіваемся са шляху, трапляем у лабірынт і ўпіраемся ў тупікі. Менавіта пра гэта гаварыў старажытнарымскі філосаф Сенека: "Хто жыве без мэты наперадзе, той заўсёды блукае". Дык у чым жа сутнасць сапраўднага сэнсу жыцця?

Вядомы ўрач-псіхіятр Юрый Бандарэнка падзяліўся двума простымі складнікамі сапраўднага сэнсу жыцця. Па-першае, ён неабсяжны: што б з вамі не здарылася і ў якой бы сітуацыі не апынуліся, сэнс жыцця знікнуць не можа. Падругое, сапраўдны сэнс жыцця заўсёды прыносіць чалавеку шчасце. На падставе двух гэтых складнікаў, выдзеленых Юрыем Бандарэнкам, паспрабую прааналізаваць часта сустракаемыя адказы людзей адносна сэнсу жыцця.

### САМАРЭАЛІЗАЦЫЯ

Напэўна, для многіх сэнс жыцця выглядае як самарэалізацыя. Але давайце падумаем, якая розніца: самарэалізаваўся чалавек і памёр ці не самарэалізаваўся, але таксама памёр. Смерць зраўняе ўсіх, бо жыццёвыя поспехі не могуць быць вечнымі!

Так, пагаджуся, чалавек павінен рэалізаваць сябе, але рабіць гэта асноўным сэнсам жыцця няправільна. Як піша англійскі пісьменнік Оскар Уайльд, самавыяўленне – гэта ўсяго толькі мэта жыцця, але не сэнс.

### СПАЖЫВАННЕ, ЗАДАВАЛЬНЕННЕ

Задавальненне не можа быць сэнсам існавання хаця б таму, што яно мінае і, такім чынам, перастае быць асалодай. Любая патрэба заспакойваецца толькі на пэўны час, а потым заяўляе пра сябе зноў і зноў.

З культам задавальнення вельмі цесна звязаны культ спажывання. Тут мне ўзгадваюцца словы рускага прадпрымальніка і мецэната Савы Марозава: "Набыццё рэчаў і іх спажыванне не можа надаць нашаму жыццю сэнс... Назапашванне матэрыяльных рэчаў не можа запоўніць пустэчу жыцця тых, у каго няма ўпэўненасці і мэты".

### ПАМНАЖЭННЕ МАТЭРЫЯЛЬНЫХ ДАБРОТ

Як было сказана вышэй, матэрыяльныя рэчы таксама не могуць зрабіць чалавека шчаслівым, бо яны маюць тэрмін свайго служэння. Да таго ж, маёмасць немагчыма выкарыстоўваць пасля смерці. Такім чынам, гэтая мэта часовая.

### ПРАЦА, ТВОРЧАСЦЬ

І тут хацелася б прывесці з Бібліі словы чалавека, які на схіле жыцця азіраецца на ўсе свае вялікія здзяйсненні, што былі справамі яго жыцця. Ён піша: "Учыніў я вялікія дзеі: дамы я сабе збудаваў, насадзіў сабе вінаграднікі; завёў сабе сады і гаі, насадзіў у іх розных пладовых дрэў; нарабіў сабе сажалак, каб паліваць з іх гаі, у якіх дрэвы растуць; наняў сабе слуг і служанак, і дамачадцы былі ў мяне; а таксама буйной і дробнай худобы было ў мяне болей, чым ва ўсіх, што жылі да мяне ў Ерусаліме; сабраў сабе срэбра і золата ды скарбаў каштоўных ад цароў і правінцый; завёў у сябе спевакоў і спявачак і асалоду сыноў чалавечых – мноства жонак і наложніц. І ўзвялічыўся я і ўзбагацеў над усімі, што жылі да мяне ў Ерусаліме; і мудрасць мая засталася пры мне. І нічога, чаго вочы мае ні прагнулі, я ім не адмовіў; ад ніводнае радасці сэрца майго не ўхіліў, бо сэрца маё суцяшалася кожнаю працай маёю; і гэта было маёй доляй ва ўсіх маіх працах. І калі я зірнуў на ўсе дзеі мае, якія ўчыняў я сваімі рукамі, на працу, якую рабіў я: і вось, усё – марнасць і пагоня за ветрам, і ніякай карысці пад сонцам" (Экл 2, 4–11).

### КЛОПАТ ПРА БЛІЗКІХ

Многія людзі бачаць сэнс свайго жыцця ў блізкім чалавеку (у дзіцяці, сужэнцы, бацьку ці маці). Яны нярэдка так і кажуць: "Я жыву дзеля яго/яе". Безумоўна, любіць сваіх блізкіх, ахвяраваць чымсьці дзеля іх, дапамагаць ісці па жыцці – неабходна, натуральна і правільна. Але пераносячы сэнс жыцця на іншага чалавека, мы губляем саміх сябе, цалкам раствараемся ў ім. Ахвяруемся дзеля бліжняга, якога таксама калісьці не стане. Апынуўшыся перад апошняй рысай, ці не спытаем саміх сябе: "Дзеля чаго ж мы жылі?". І акажацца, што пражылі не сваё жыццё, а чужое...

Некаторыя жывуць з надзеяй, што змогуць пакінуць блізкім спадчыну, матэрыяльныя каштоўнасці, статус і г. д. Толькі гэта не заўсёды добра. Незаробленыя каштоўнасці могуць разбэсціць, нашчадкі могуць застацца няўдзячнымі, ды і з імі самімі можа нешта здарыцца – і нітка разарвецца. У гэтым выпадку атрымаецца, што, існуючы толькі для іншых, сам чалавек пражыў сваё жыццё без сэнсу.

### ШТО САПРАЎДЫ З'ЯЎЛЯЕЦЦА СЭНСАМ ЖЫЦЦЯ?

Вядомы рускі пісьменнік Леў Талстой аднойчы сказаў: "Я ўпэўнены, што сэнс жыцця для кожнага з нас – проста расці ў любові...". І калі прааналізаваць дадзеную фразу з пункту гледжання ўрачапсіхіятра Юрыя Бандарэнкі, то яна нясе ў сабе і шчасце, і бясконцую мэту. Аналагічныя думкі сустракаюцца і ў старажытнагрэчаскага філосафа і мысліцеля Арыстоцеля: "служыць іншым і рабіць дабро".

Таму на пытанне пра сэнс жыцця і смерці чалавека я б адказала, што галоўнае – гэта бесперапынна ўзрастаць у любові да бліжняга і да Бога. Толькі такі сэнс можа быць крыніцай супакаення, унутранай гармоніі, сапраўднага шчасця і да таго ж існаваць вечна. "Заўсёды перад сабою я Госпада бачыў, бо Ён праваруч мяне; не пахіснуся. Таму ўзрадавалася сэрца маё; і ўзвесяліўся мой язык; нават і цела маё супакоіцца ў спадзяванні; бо Ты не пакінеш душы маёй у пекле і не дасі святому Твайму ўбачыць тленне. Ты пакажаш мне шлях жыццёвы: паўната радасці перад абліччам Тваім, шчасце ў правіцы Тваёй навечна" (Пс 15, 8–11).

"У дыялогу з жыццём важна не яго пытанне, а наш адказ", – сцвярджала Марына Цвятаева. Дык што ж кожны з нас выбярэ, які сэнс жыцця? Часовы, што заканчваецца праз пэўны час, ці той, які бясконцы і прынясе з сабой сапраўднае святло ў душу?

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗІЦЯЦІ Ў АДАПТАЦЫІ ДА ШКОЛЫ?



Кс. Павел Салабуда, псіхолаг

Верасень – месяц старту навучання ў школе. Некаторым дзецям ён даецца лягчэй, некаторым цяжэй. Адным удаецца вельмі хутка ўвайсці ў рытм школьнага жыцця, а ў іншых гэта атрымліваецца павольней, і адаптацыйны перыяд можа доўжыцца да месяца. Праўда ў тым, што ўсім дзецям пасля канікул патрэбны час на адаптацыю да школы.

Разважаючы пра працэс развіцця дзяцей, мы забываемся, што акрамя фізічнай і інтэлектуальнай сталасці, існуе яшчэ і школьная сталасць. Навуковая літаратура вызначае школьную сталасць як набор неабходных для дзіцяці характарыстык, што дазваляюць яму лепш прыстасавацца да школы. Часцей за ўсё гэта ўзрост 6-7 гадоў. І, вядома, менавіта першакласнікам найбольш складана ўвайсці ў новае асяроддзе пад назвай "школа". Хоць, несумненна, у кожным класе могуць узнікнуць цяжкасці, звязаныя з гатоўнасцю вучыцца і здольнасцю выконваць пастаўленыя задачы.

Важна, каб бацькі былі ўпэўнены, што іх сын ці дачка здольны ўзяць на сябе ўсе абавязкі, звязаныя з распачаццем вучобы. Добра, калі бацькі ўжо ў дзіцячым садку паклапоцяцца аб тым, каб дзіця выпрацоўвала ў сабе гатоўнасць вучыцца, каб здабыванне новых ведаў было для малога яго вялікай жыццёвай прыгодай. Бацькі павінны данесці да дзіцяці, што навучанне не з'яўляецца забавай, а перыяд сталення і вучобы мае свае правілы і нормы.

**Што можна зрабіць, каб забяспечыць дзіцяці добры старт у 1 класе:**

1. Развіваць самастойнасць дзіцяці (напрыклад, малое вучыцца самаабслугоўванню);
2. Фарміраваць настойлівасць і сістэматычнасць (калі якая-небудзь задача ўжо распачата, варта яе скончыць);
3. Развіваць назіральнасць і вучыць правільнаму вымаўленню (не трэба перайміаць маўленне дзяцей, але заўсёды гаварыць правільна);
4. Развіваць цікавасць да кніг;
5. Прывіваць правілы культурных паводзін;
6. Развіваць станоўчую матывацыю да навучання (не варта палохаць дзіця школай, трэба заахвочваць вучыцца);
7. Можна растлумачыць дзіцяці, што перад тым, як пачаць рыхтаваць хатняе заданне, ці перад тым, як ісці ў школу, можна паматіцца свайму Анёлу-ахоўніку.

Я пералічыў толькі некаторыя спосабы забеспячэння добрага старту навучання. Іх, вядома, значна больш. Ды і бацькі, якія лепш ведаюць сваіх дзяцей, таксама могуць прыдумаць свае спосабы, каб дапамагчы сыну ці дачцэ пазітыўна ўспрымаць школьнае навучанне і неабходнасць набываць новыя веды.

Праца выхавання вельмі цяжкая, і бацькі павінны набрацца сіл, каб іх дзіця мела ўсе ўмовы для развіцця сваіх навыкаў. Выбар правільнай школы, улік інтарэсаў будучага вучня – толькі некаторыя моманты, на якія варта звярнуць увагу. Вельмі важнае значэнне мае супрацоўніцтва настаўнікаў з бацькамі, а таксама дапамога бацькоў у фарміраванні аўтарытэту настаўніка ў вачах іх дзяцей.

Давайце не будзем марнаваць таленты і патэнцыял нашых дзяцей, будзем клапаціцца пра развіццё дароў, дадзеных ім Богам. Памятайма таксама пра духоўнае выхаванне сваіх дзяцей, дбаючы пра тое, каб яны з маленства ахвотна ўдзельнічалі ва ўроках рэлігіі ў парафіяльным касцёле.

# ПАМПЕЙСКАЯ НАВЭННА ЯК ЦЯЖКАЯ АРТЫЛЕРЫЯ

**У кастрычніку заўважаем, як на сцежках з'яўляюцца вялікія бусіны – каштаны, знамянуючы прыйсце новага халоднага сезона. У сваю чаргу ў цёплых кішэнях нашых паліто намацваем маленькія бусіны – ружанец, што азначае распачацце адмысловага малітоўнага перыяду.**

Ангеліна Марцішэўская

**НАДЗЕЯ НА ЦУД**

Адной з найбольш прыгожых і ў той жа час складаных форм Ружанцовай малітвы з'яўляецца Пампейская навэнна, якая доўжыцца 54 дні. Гэта патроеная навэнна просьбаў, якая трывае 27 дзён, злучаная з 27-дзённай патроенай навэннай падзякі. Усю навэнну прысвячаем адной інтэнцыі і штодня агучваем яе, молячыся 3 часткі Ружанца – радасную, балесную і хвалебную. Пасля з надзеяй чакаем плёну.

Якім чынам узнікла Пампейская навэнна? Усё пачалося ў 1884 годзе ад невылечна хворай дзяўчыны з Пампей. Вядомы факт, што 21-гадовай Фартунаціне Агрэлі аб'явілася Маці Божая, якая звярнулася да яе са словамі: "Кожны раз, калі захочаш атрымаць ад Мяне якую-небудзь ласку, адраў дзеля Маёй хвалы 3 навэнны просьбаў, адгаворваючы 15 таямніц Майго Ружанца, а потым 3 навэнны падзякі". Пасля таго, як дзяўчына скончыла навэнну, яна была цудам аздароўлена. Так быў пакладзены пачатак Пампейскай навэнне, або, як яе часта называюць, Непераможнай. Дарэчы, абраз Маці Божай у Пампейскай далей славіўся цудамі і ласкамі з 1876 года. А пасля здарэння з Фартунацінай Папа Рымскі Леон XIII афіцыйна прызнаў цуды, здзейсненыя праз заступніцтва Маці Божай Пампейскай.

**"ІНСТРУКЦЫЯ АБСЛУГОЎВАННЯ"**

- **Раскласці малітву на ўвесь дзень.** Знайсці ўласны рытм і спосаб штодзённага адгаворвання 3-ох частак Ружанца. Напрыклад, раніцай, едучы на працу ці на занняткі, выйсці на 1 прыпынак раней, каб мець час памаліцца 1 частку – астатнія пакінуць на вечар.
- **Спампаваць з інтэрнэту мабільны дадатак да Пампейскай навэнны.** Праграма пакрокава распавядзе, як маліцца, дапаможа сачыць за колькасцю дзён адгаворвання навэнны, прапануе маліцца з лектарам і пачытаць сведчанні асоб, якія спазналі цуды пасля заканчэння навэнны.
- **Знайсці "кампанію" для малітвы.** Зразумела, што складана маліцца "Пампейкай" разам з асобай з атачэння, бо кожны мае адрозныя абавязкі і іншы план дня. Аднак можна знайсці падмогу ў тым жа інтэрнэце: напрыклад, уключыць запіс адгаворвання Ружанца св. Янам Паўлам II і, такім чынам, маліцца разам са Святым Айцом.
- **Калі ёсць жаданне, маліцца і 4 часткі Ружанца.** Далучыць да Пампейскай навэнны Таямніцы святла.
- **Разважаць любы ўрывак з Евангелля.** Таямніцы Ружанца не абавязкова павінны быць тымі, якія традыцыйна прызнаны за малітоўную формулу. Кожную таямніцу з жыцця Езуса Хрыста, пра якую чытаем у Евангеллі, можам укласці ў наш Ружанец і разважаць. Напрыклад, задумацца над аздараўленнем паралітыка або размнажэннем хлеба.
- **Быць напагатове ў выпадку атакі злога.** Часта здараецца, што асобе, якая распачынае Пампейскую навэнну, не шчасціць у надзённых справах. Не трэба знеахвочвацца, але наадварот: становіцца больш трывалым у малітве. Гэта толькі рэакцыя д'ябла на тое, што чалавек становіцца бліжэй да Бога.
- **Памятаць, што навэнна – гэта, у першую чаргу, час, праведзены побач з Госпадам.** Ёсць спакуса ўспрыняць "Пампейку" як гандаль з Богам – я Табе безліч адгавораных Ружанцаў, а Ты мне выкананне майго капрызa. Так малітва не працуе. Пампейская навэнна – гэта, найперш, магчымасць нанова адкрыць сябе і Божае дзеянне ўнутры сябе.




Маці Божая Пампейская

**У Лідзе каля падножжа фарнага касцёла вернікі збіраюцца на штодзённую малітоўную акцыю супраць гвалту пасля масавага збіцця дэманстрантаў пратэстных акцый у перыяд 9–12 жніўня. Формай малітвы абрана Пампейская навэнна, каб праз заступніцтва Маці Божай выпрасіць мірнага вырашэння грамадска-палітычнага крызісу ў краіне і хутчэйшага вяртання на Радзіму арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, якога не пускаюць у Беларусь.**

А пасля – спадзявацца на атрыманне ласкі, калі ўсё яшчэ палічым яе патрэбнай.

**А ШТО, КАЛІ ПРОСЬБА НЕ БУДЗЕ ВЫСЛУХАНАЯ?**

Па-першае, варта памятаць, што не ўсё адбываецца адразу і малітва не дзейнічае, як магія. Часам жаданага здзяйснення неабходна пачакаць, бо толькі Бог ведае найбольш адпаведны момант, калі чалавеку трэба (і ці трэба ўвогуле) даць тое, чаго ён хоча.

Калі ўсё ж жаданы цуд не адбываецца, варта ўглядзецца ў глыбіню свайго сэрца і, там, магчыма, заўважыць змены, якіх нават не чакаў. Час навэнны – гэта час шматлікіх ласкаў, якія выплываюць з сэрца Марыі. І, безумоўна, падчас такой працяглай малітвы на чалавека сыходзіць шмат дароў: пакора, супакой, радасць, удзячнасць... Паляпшаюцца адносіны з акружэннем, бо адкрываючы новыя добрыя рысы ў сабе, заўважаем іх і ў іншых.

Акрамя таго, дзякуючы навэнне можна атрымаць ласку больш правільнай і плённай арганізацыі ўласнага часу – не марнаваць хвіліны і нават гадзіны на непатрэбныя рэчы. Жыццё часта набывае новае, лепшае вымярэнне. Калі камусьці здаралася адчуваць нуду падчас адгаворвання Ружанца, Пампейская навэнна можа надаць новы сэнс і адкрыць прыгажосць гэтай малітвы. Бо прайсці разам з Марыяй і Езусам праз усю гісторыю Збаўлення цягам аднаго дня – неверагодна. Штодня звяртаючыся да тых самых разважанняў, інакш іх успрымаеш, знаходзіш штосьці новае і спалучаеш жыццё Хрыста і Багародзіцы з уласным.

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Хто можа атрымаць папскае благаслаўленне?

Ватыканскае радыё

*Каталікі маюць магчымасць атрымаць асабістае блаславенне ад Папы Рымскага на адмысловай грамаце. Яно ўдзяляецца Святым Айцом з нагоды прыняцця сакрамантаў (хросту, Першай св. Камуніі, канфірмацыі, вянчання, пасвячэння ці складання манаскіх абяцанняў), а таксама з нагоды юбілею, звязанага з пералічанымі сакрамантамі і падзеямі, а таксама дня нараджэння (18-годдзя, а затым па дасягненні 50-ці гадоў і ў кожнае наступнае дзесяцігоддзе).*

*Каб атрымаць Апостальскае блаславенне, неабходна падаць заяўку ў Службу папскіх ласкаў у Ватыкане. Галоўная ўмова – быць практыкуючым каталікам, таму ў многіх выпадках заяўку павінна суправаджаць сведчанне пробашча парафіі, заверанае пячаткай.*

*Заяўку на атрыманне такога пасведчання можна таксама падаваць анлайн. Пры гэтым дакладнасць пазначаных звестак ацэньваецца на сумленні ў чалавека, які просіць аб блаславенні. Запаўняючы модуль, неабходна пацвердзіць наступныя звесткі: з'яўляюся каталікам, жыву ў адпаведнасці з каталіцкай верай і мараллю, не належу да рэлігійных некаталіцкіх груп ці да арганізацый, якія адкрыта процістаяць Каталіцкаму Касцёлу, не жыву ў грамадзянскім (г. зн. не царкоўным) шлюбе, не складаў паўторны грамадзянскі шлюб пасля разводу, не падлягаю ніводным кананічным санкцыям і не займаю ніякую грамадскую пасаду.*

*Усе ахвяраванні, якія паступаюць у Службу папскіх ласкаў ад жадаючых атрымаць памятнае пасведчанне аб папскім блаславенні, прызначаюцца на справы міласэрнасці.*



Хрыстос ацаляе паралізаванага каля купальні, Барталамэ Эстэбан Мурыльяа

# ЗАКЛІК І АДКАЗ

Тэрэса Клімовіч

**Любыя адносіны пачынаюцца з сустрэчы. Адносіны з Богам таксама.**

У Евангеллі аб сустрэчы з Езусам Хрыстом часта гаворыцца адным кароткім сказам, фразай ці нават словам. Але як шмат за імі хаваецца сэнсу! Вось, напрыклад, эпізод сустрэчы Мацвея з Езусам: "Калі Езус адыходзіў адтуль, убачыў чалавека, які сядзеў на мытні, якога звалі Мацвей, і сказаў яму: «Ідзі за Мною». Той устаў і пайшоў за Ім" (Мц 9, 9).

Гэтае здарэнне адбываецца адразу пасля аздараўлення паралізаванага, якому Езус сказаў: "Ідзі дадому". "Той устаў і пайшоў дадому. А людзі, убачыўшы гэта, спалохаліся і праславілі Бога, які даў такую ўладу людзям" (Мц 9, 7–8).

Аповед пра Мацвея пачынаецца словамі "Калі Езус адыходзіў адтуль...". Адыходзіў ад дома, дзе падняў на ногі паралітыка, ці адыходзіў у іншы горад, невядома, але знаходзіўся ў руху. Дарэчы, і вакол Яго ўсё прыйшло ў рух: з трымценнем у сэрцы людзі праслаўлялі Бога, бо сталі сведкамі ці пачулі пра цуд аздараўлення безнадзейна хворага чалавека.

На гэтым фоне сапраўды кантраснай з'яўляецца постаць Мацвея, які сядзіць на мытні. Здавалася б, тое, што ён знаходзіцца на працоўным месцы, цалкам нармальна. Аднак толькі з пункту гледжання яго наймальніка – акупацыйнай рымскай улады. Суайчыннікі лічылі мытніка найгоршым грэшнікам, які абдзірае сваіх жа братоў на карысць захопнікаў. Выключаны з супольнасці, ён быў тым, ад каго адводзяць позірк ці глядзяць скрозь, нібы таго няма. Ён стаў інструментам прыгнятальнікаў, функцыяй, а не чалавекам. А што думаў сам, евангеліст нічога не гаворыць. Не бачыў выйсця і звыкся? Унутрана пратэставаў?

Евангелле ў гэтым месцы прапануе нам паглядзець на Мацвея вачамі Езуса. Крыху не па сабе ад такога ракурсу, аднак у аповедзе больш нікога няма: ні вучняў, ні сведкаў. Можам толькі давераецца Пісанню: Езус "убачыў чалавека, які сядзеў на мытні". Для нас гэта часта становіцца неверагодна складаным – разгледзець у іншым чалавека... І асобна – путы граху, якія трымаюць яго. Крыху пазней у гэтым раздзеле з'яўляецца фарысеі са спробай навесці парадак, абураючыся сумесным пасілкам Настаўніка "з мытнікамі і грэшнікамі" (Мц 9, 11), і Езус будзе тлумачыць ім, што Ён прыйшоў менавіта дзеля грэшнікаў, як лекар да хворых. Таму ў момант сустрэчы з Мацвеем Езус глядзіць на чалавека, дзеля якога прыйшоў на зямлю, і ведае, што бачыць перад сабой аднаго з найбліжэйшых сваіх сяброў, які раздзеліць з Ім шлях і справу пашырэння Божага Валадарства.

Езус зноў чыніць цуд: вызваляе чалавека ад усяго, што перашкаджае яму рухацца. Евангелле паказвае гэта так проста: пасля слоў Езуса "Ідзі за Мною" Мацвей устаў і пайшоў за Ім.

Цікава, што далейназіраецца нейкі разрыў у евангельскім апавяданні, наступае цішыня, а чарговы эпізод ужо гаворыць аб тым, што за сталом з Езусам і вучнямі занялі месца "многія мытнікі і грэшнікі". Гэты прабел у часе і ў аповедзе таксама дае магчымасць скрозь усе адлегласці наблізіць падзеі да нас, цяперашніх. Мы – тыя, хто можа заняць месца за сталом з Езусам, калі чуем Яго і верым Яму. Няма сведкаў таго, як Хрыстос глядзіць на кожнага з нас у гэтыя дні. Хто мы і што робім з дня ў дзень, да чаго прывязаныя, як глыбока зраненыя нашы душы, і якімі бязлітаснымі да бліжніх бываем самі – нічога не схавана ад Яго вачэй, якія выхопліваюць нас з натоўпаў і заўважаюць у самай чорнай нашай адзіноце. Гэта вочы Сябра і Брата. І калі Ён кліча сваіх сяброў, ніводная вяроўка не можа ўтрымаць іх.

А нас? "Ідзі за Мною", – гаворыць Езус не толькі ў момант паклікання касцэі да святарскага ці манаскага служэння. Гэта штодзённы заклік для кожнага з нас. У тыя раніцы, калі не хочацца пачынаць новы дзень, і калі замест чалавека ў нас бачаць толькі карысны інструмент, у сітуацыях, калі страшна паступіць паводле сумлення, у роспачы ад прачытаных і пачутых навін і нават у такім зразумелым жаданні "проста жыць, нікога не чапаць і каб мяне не чапалі", на нас спачывае любячы Божы позірк, і гучыць запрашэнне стаць вучнем і сябрам Хрыста. "Ідзі за Мною" – да межаў зямлі і па-за межы гэтага жыцця – у вечнасць.

РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

КОЖНУЮ НЯДЗЕЛЮ Ў 8.00 НА ПЕРШЫМ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ КАНАЛЕ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ Ў ГРОДНЕ НА 96,9 FM, У СВІСЛАЧЫ НА 100.8 FM.

Кс. Юрый Марціновіч

***11 кастрычніка – XXVIII Звычайная нядзеля***
***Мц 22, 1–10***

Езус зноў расказаў ім прыпавесць: "Валадарства Нябеснае падобнае да караля, які справіў вяселле для свайго сына. Ён паслаў сваіх слуг паклікаць запрошаных на вяселле, але яны не хацелі прыйсці. Зноў паслаў іншых слуг, кажучы: «Скажыце запрошаным: вось я прыгатаваў гасціну маю, зарэзаны валы мае і адкормленая жыўнасць, і ўсё падрыхтавана; прыходзьце на вяселле». Але яны пагардзілі і адышлі, хто на сваё поле, а хто да свайго гандлю. Астатнія ж, схапіўшы слуг ягоных, зняважылі і забілі іх.

Кароль жа раззлаваўся і, паслаўшы войска сваё, знішчыў забойцаў гэтых і падпаліў іхні горад. Тады ён сказаў сваім слугам: «Вяселле гатова, але запрошаныя не былі годнымі. Таму пайдзіце на ростані і ўсіх, каго сустрэнеце, запрасіце на вяселле». Тыя слугі, выйшаўшы на дарогі, сабралі ўсіх, каго знайшлі: і кепскіх, і добрых. І напоўнілася вяселле гасцямі".

## Прыпадобніцца да Бога

*Каралеўская вясельная гасціна – гэта вобраз запавету, які Бог заключыў з адкупленым Езусам чалавецтвам, запрашаючы нас прыняць удзел у радасці збаўлення (параўн. Іс 25, 9) і супольнасці з сабой. Бог кліча ўсіх, добрых і дрэнных, і паўтарае сваё запрашэнне шмат разоў, хаця яно часта сустракаецца з пагардай, нават варожасцю і агрэсіяй. Ласка, дадзеная без якіх-небудзь умоў, патрабуе ад нас – запрошаных – годнага адказу.*

*"Пан заклікае добрых і дрэнных не дзеля таго, каб дрэнныя засталіся дрэннымі, але каб яны скінулі з сябе брудную вопратку і апранулі вясельныя шаты, г. зн. міласэрнасць і дабро", – сцвярджае Арыген. Таму мы павінны адкінуць старога чалавека, які знішчае сябе зманлівымі пажадлівасцямі, дазволіць аднавіцца Духу ў сваім розуме і апрануцца ў новага чалавека, створанага паводле Бога, у справядлівасці і святасці праўды (параўн. Эф 4, 22–24).*

*Усё наша жыццё павінна быць накіравана на тое, каб стаць падобнымі да Езуса, Боскага Жаніха. Калі апынёмся перад Каралём тварам да твару, не зможам хавацца за прыгожымі дэкларацыямі: за нас будуць гаварыць толькі нашы ўчынкі.*

*Пане Езу Хрыстэ, дапамагай мне заўсёды быць падобным да Цябе. Учыні, каб я заўсёды быў міласэрны і добры.*

***18 кастрычніка – XXIX Звычайная нядзеля***
***Мц 22, 15–21***

Фарысеі пайшлі і раіліся, як бы злавіць Езуса на словах. І пасылаюць да Яго вучняў сваіх разам з прыхільнікамі Ірада, каб сказалі: "Настаўнік, мы ведаем, што Ты праўдзівы, і шляху Божаму праўдзіва навучаеш, і не зважаеш ні на кога, бо не глядзіш на асобу чалавека. Таму скажы нам: як Табе здаецца, ці належыць даваць падатак цэзару, ці не?".

Але Езус, ведаючы зласлівасць іхнюю, сказаў: "Што выпрабоўваеце Мяне, крывадушныя? Пакажыце Мне падатковую манету". Яны прынеслі Яму дынар. І кажа ім: "Чыя гэта выява і надпіс?". Кажуць Яму: "Цэзара". Тады кажа ім: "Дык аддайце цэзарава цэзару, а Божае – Богу".

## Аддаць сябе Богу

*Падобна таму, як манета мае выяву Цэзара і належыць яму, чалавек з'яўляецца выявай Бога і належыць Яму. Даніна, якую плацім Пану, – гэта адданасць, шчырая любоў да Яго і да бліжняга. А ўсё, што толькі як знешняе аддаём Богу, – нашы малітвы, час, прыход у касцёл – не стане ўрэшце выразам павагі да Пана, калі не прысвячаем Яму сябе цалкам. Без гэтай унутранай адданасці ўсё будзе проста нейкімі аб'едкамі, кінутымі Творцу.*

*Аддаць Богу Божае – значыць аддаць Яму сябе, значыць прызнаць сваю залежнасць ад Яго. У рэшце рэшт, усё паходзіць ад Бога, і калі б не Ён, нас не існавала б. Аддаць Богу Божае – значыць узгадаць, што мы толькі гаспадары свету, а не яго ўласнікі, значыць усвядоміць, што вечнасць належыць Яму, што Пан – Валадар жыцця і Ён мае права вырашаць пытанне аб нараджэнні і смерці чалавека. Бог ведае, што Яго слова важнейшая за любое чалавечае слова. Яго закон мае перавагу над законам чалавека.*

*Бог заўсёды першы, бо без Яго свет не існаваў бы. Бог самы мудры, бо Ён Крыніца мудрасці. Бог любіць мацней за ўсіх, бо Ён ёсць Любоў. І мы існуем, з'яўляемся мудрымі і любім па-сапраўднаму толькі тады, калі давяраем Яму і Яго закону. Давайце вернем Богу тое, што належыць Яму – нас саміх.*

*Пане Езу Хрыстэ, аддаю Табе ўсё, што маю і кім з'яўляюся. Вядзі мяне ў сваёй цярплівасці ды мудрасці і дапамажы, каб я ўсім сэрцам Табе даверыўся.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МІХАЛУ СТЭЦКЕВІЧУ

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя віншаванні. Кожны з нас усёй душой рады слухаць словы Вашай пропаведзі, парады або падтрымкі ў шчаслівыя моманты ці ў складанай жыццёвай сітуацыі. Вашы мудрасць, дабрыня і клопат пра людзей заўсёды з'яўляюцца для нас прыкладам у паўсядзённым жыцці. Дзякуем за Вашу бясконцую адданасць Касцёлу і любоў да Божага люду! Хай Ваша праведная праца і надалей дае шматлікія плады, а найлепшым падарункам будзе радасны жыццёвы шлях. Ад усяго сэрца просім у Бога для Вас вялізнай цярплівасці і цялесных сіл. Жадаем моцнага здароўя, душэўнага святла і мудрасці, Божай дапамогі і блаславення ў жыццёвых справах, нялёгкіх працах і добрых пачынаннях. Хай кожны Ваш дзень будзе пад аховай Езуса Хрыста і апекай Найсвяцейшай Панны Марыі, а з падтрымкай нябеснага заступніка св. Міхала Арханёла хай шчодра адмерваюцца Вашы добрыя ўчынкі на карысць парафіян і нашага касцёла!*

*З малітвай вернікі парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Бердаўцы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ЗВЯЖЫНСКАМУ

*з нагоды 21-ай гадавінай святарскага пасвячэння складаем сардэчныя пажаданні: здароўя на доўгія гады, супакою, Божага блаславення. Няхай святло Хрыста асвячае Ваш святарскі шлях, а Маці Божая вядзе найлепшай дарогай да святасці і ахінае сваёй апекай.*

*Апостальскі рух "Маргарытка" і парафіяне з Варнянаў і Вароны*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ДЗЯНІСУ ШМЫГІНУ

*з нагоды імянін шчыра жадаем моцнага здароўя і радасці на кожны дзень. Няхай Езус Хрыстус, які паклікаў Вас на святарскі шлях і даверыў выкананне такой адказнай паслугі, адорыць шчодрымі ласкамі і блаславеннем. Няхай Маці Божая атуляе Вас сваім плашчом, а святы Заступнік апекуецца ў кожную хвіліну жыцця.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Міжэрычаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ МІХАЛУ СТЭЦКЕВІЧУ

*з нагоды імянін жадаем Божага блаславення, апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень, заступніцтва св. Міхала Арханёла, а таксама моцнага здароўя на доўгія гады, радасці і цярплівасці ў нялёгкай святарскай паслузе. Ад усяго сэрца дзякуем за дабрыню і адкрытасць, шчырасць і ахвярнае служэнне.*

*З малітвай і павагай вернікі з парафіі св. Казіміра, Першамайск-Няцеч*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ЮЗАФУ БАГДЗЕВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем, каб здароўе было моцным, жыццё – доўгім, творчыя сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай. Няхай Вас заўсёды асвячаюць прамяні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа, апека Панны Марыі, а Езус адорвае сваімі ласкамі. Няхай любоў і спакой заўсёды ясненюць у сэрцы.*

*Удзячныя вернікі з парафіі свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АРТУРУ МАЛАФЕЮ

*з нагоды імянін складаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай здароўе будзе моцным, творчыя сілы – бясконцымі, а радасць ад плёну працы – штодзённай. Няхай Вас заўсёды асвятляюць прамяні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Панны Марыі, Езус валадарыць у сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а святыя заступнікі нястомна апекуюцца Вамі. Мы вельмі Вам удзячны за шчырыя малітвы, павучальныя казанні, зычлівасць, дабрыню, цярплівасць, цудоўную ўсмешку, а таксама за клопат пра людзей і касцёл. Аддзяч Вам, Божа!*

*З памяццю ў малітве парафіяне з Гродна-Аўгустоўка*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АНДРЭЮ ПЫШЫНСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, радасці, задавальнення са святарскай паслугі, добрых і зычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Святы Дух асвячае сваім святлом, а Маці Божая прытуляе да свайго сэрца.*

*Былыя парафіяне з парафіі Мсцібава*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АНДРЭЮ ПЫШЫНСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння шлём сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, моцнага здароўя, сіл і стойкасці, нястомнага запалу ў абвяшчэнні Божага слова. Няхай шчасце спрыяе, Анёл-ахоўнік адорвае любоўю, а здароўе не падводзіць. У Вашых вачах мы бачылі любоў і дабрыню. Як знак Божай любові ўспрымаем тое, што дзякуючы Вашым намаганням маем магчымасць сустракацца з Панам Богам у аднаўленым касцёле. Молімся аб моцы і здароўі на доўгія гады для Вашай мамы. Шчыра дзякуем за паслугу, малітву, дабрыню і клопат пра кожнага з нас.*

*З малітвай, любоўю і павагай парафіяне з касцёла Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў Рандзілаўшчыне*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АНТОНІЮ КАЗЛОЎСКАМУ

*з нагоды 16-ай гадавіны святарскай паслугі ў нашай парафіі ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, Божых ласкаў і апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень жыцця. Дзякуем за адданую працу ў нашай супольнасці, духоўную апеку, клопат аб святыні, увагу да кожнага верніка, шчырую малітву, добрую ўсмешку і вялікае сэрца.*

*Вернікі з в. Малінавая*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ІГАРУ АНІСІМАВУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай добры Бог асвячае дарогу Вашага жыцця, узмацняе розум і сэрца, каб Слова, якое выходзіць з Вашых вуснаў, стала агнём святла і моцай нашай веры. Няхай Цела і Кроў Збаўцы так моцна злучаць Вас з Богам, каб ніколі не аддаліліся ад Яго, а наша гарачая і сардэчная малітва хай будзе для Вас падтрымкай у рэалізацыі ўсіх планаў і намераў на ніве Пана і ў Вашым жыцці. Шчасці Божа на доўгія гады!*

*З дарам малітвы парафіяне касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**рэлігійны часопіс**

У адносінах бацькоў і дзяцей сустракаецца даволі частая праблема: бацькі хочуць кантраляваць усё, што адбываецца ў жыцці іх дзяцей. Парадаксальна, але чым больш кантроль, тым меншае жаданне яму паддавацца. Падумайце, ці надоўга ўдавалася вам скандаламі, змушэннем і бясконцымі званкамі ўтрымаць гэты кантроль?

На дзяцей можна паўплываць сілаю, толькі пакуль яны дзеці, пакуль бацькі для іх безумоўны аўтарытэт. Пакуль яны яшчэ несамастойныя, можна нешта ім забараніць, неяк пакараць. Але як толькі дзіця пачынае імкнуцца да самастойнасці, бацькі змогуць уплываць на яго толькі тады, калі яны маюць сапраўдны аўтарытэт.




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч прыняў удзел у пленарным пасяджэнні Рады Канферэнцый Біскупаў Еўропы (РКБЕ). З-за эпідэміялагічнай сітуацыі яно адбылося ў рэжыме анлайн.

Старшыні біскупскіх канферэнцый Еўропы абмеркавалі выкліканыя пандэміяй каранавіруса пастырскія і рэлігійныя праблемы. Перадусім падзяліліся вопытам перажывання няпростага часу ў розных краінах. Акрамя таго, былі закрануты праблемы, звязаныя з ачышчэннем духоўнага жыцця, рэлігійнасцю і хрысціянскай культурай.

Наступнае пленарнае пасяджэнне РКБЕ адбудзецца ў верасні 2021 года ў Рыме (Італія).




**інтэрнэт-радыё**

Ці пачуццё віны можа быць маркерам для таго, каб пашукаць у гэтым месцы свой грэх? Пачуццё віны – псіхічны стан. І ён не з'яўляецца добрым станам, таму як мага хутчэй трэба з яго выходзіць. Аднак з гэтага можа нараджацца пачатак перамен. Калі хтосьці ўва мне спрабуе абудзіць пачуццё віны, трэба сказаць сабе: "Стоп! Што з гэтага вынікае? Што я магу зрабіць або што не павінен рабіць? Што ад мяне залежыць?". Пачуццё віны не павінна быць статычным: трэба з яго выходзіць, каб гэта прыносіла плён.

Такім чынам, пачуццё віны з'яўляецца псіхічным станам, а не духоўным. Зазірнуць у яго можна, але капацца не трэба.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

Пасля рамонту зноў адкрыўся сацыяльны пункт дапамогі ў Гродне па адрасе Дзяржынскага, 92.

Супрацоўнікі дабрачыннага каталіцкага таварыства "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі працуюць з сацыяльна неабароненымі пластамі насельніцтва, якім патрабуецца падтрымка. У пункце можна атрымаць дапамогу ў выглядзе адзення, абутку, уралагічных памперсаў, мыліц, хадункоў, пасцельнай бялізны і цацак для дзяцей.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4268; тыраж 4046; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.